# Радавая Беларусь

Орган Народнага Сакратарыяту Беларускае Народнае Рэспублікі

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:** МЕНСК. вул. Круглая, 14-2

**ДЛЯ ДОПІСАЎ:** МЕНСК 220030. а/с 169

Газэта распаўсюджваецца праз кнігарні Беларускага дзяржаўнага выдавецтва й прыватных гандляроў. Кошт нумару: 20000 талераў. Падпісацца можна ў кожным паштовым аддзяленьні БНР і ў прадстаўніцтвах рэдакцыі ў краінах Эўропы, Амэрыкі, а гэтаксама ў Аўстраліі, Маскоўшчыне, каўкаскіх дзяржавах, КНР, КНДР і МНР. Кошт: 1 даляр у мясцовай валюце.

Заснаваная 1-га лютага 1920 г.
Выдавалася да 21-га сакавіка 1933 г.
Адноўленая 26-га студзеня 1999 г.

Заснавальнікі: Рэдакцыйная Рада і Народны Сакратарыят Беларусі

Рэдактар: Паўлюк Я. Кубэ

Наклад 357600 асобнікаў. Друкарня Max von Schmeisser, Бэрлін. Нямеччына.

1 год выданьня — ШТОМЕСЯЧНАЯ ГАЗЭТА — № 7 (7) Серада, 21-га ліпеня 1999 г.


# 55 ГАДОЎ НАШАЕ СВАБОДЫ

## У ЛІПЕНІ 1944-ГА ГОДУ БЕЛАРУСЬ БЫЛА ВЫЗВАЛЕНАЯ З-ПАД МАСКОЎСКАЙ І НЯМЕЦКАЙ АКУПАЦЫЯЎ

Сёлета спаўняецца 55 гадоў ад часу вызваленьня Беларусі з-пад бальшавіцка-маскоўскага й нямецка-фашыстоўскага прыгнёту. Пасьля чатырох гадоў няволі, калі наш край стагнаў пад чужынскім ботам, у ліпені 1944 году была адроджана Беларуская Народная Рэспубліка, як самастойнае гаспадарства, праз выгнаньне акупантаў. Душылі нас і немцы, і маскалі. Урад Рэспублікі на чале з Прэзыдэнтам Радаславам Астроўскім кантраляваў толькі Полаччыну, а рэшта краю была падзеленая на дзьве акупацыйныя зоны. Зломны момант надышоў пры канцы 1943 году, калі нашыя войскі пачалі наступаць з поўначы на маскалёў, а партызаны на захадзе зьнішчаць нямецкія групоўкі. 27 чэрвеня на Другім Усебеларускім кангрэсе абвяшчаецца пра аднаўленьне сувэрэнітэту Беларускае Народнае Рэспублікі па-над усім абшарам краіны. У выніку ўсенароднага збройнага чыну, 3 ліпеня з двох бакоў у напаўразбураную сталіцу – Менск – увайшлі 1-ая Палеская дывізія й 3-і Полацкі корпус Краёвае абароны. 13 ліпеня жамойцкая акупацыйная ўлада пакінула Вільню. А ўжо 18 ліпеня ўрад Рэспублікі пераехаў у Менск, у свае памяшканьні на пляцы Волі. Сама цяжкія баі ішлі за Смаленск і Берасьце. Смаленск быў вызвалены толькі 17 жніўня, а 28 ліпеня Берасьце сталася апошнім местам Беларусі, зь якога ўцякалі абарваныя жаўнеры з разьбітых нямецкіх часьцяў.



Рэспубліка ад таго часу ўзьнялася з руінаў і сталася моцным эўрапейскім гаспадарствам, фарпостам цывілізацыі на мяжы з барбарскай Маскоўшчынай. Нямецкі народ даўно нам ня вораг праз прынесенае прабачэньне за ўсе злачынствы сваіх кіраўнікоў і пакаяньне за несупраціўленьне злу. Але заўжды ёсьць сілы, што прагнуць разбурыць усталяваны лад спакою й раўнавагі ў Эўропе: усчыніць перападзел межаў, катаваньні людзей і этнацыд. Дзеля таго, каб не дапусьціць да гэтага, ня мусім забывацца на нашую Перамогу й ейную цану. Свабода дармоваю не бывае.

Віншую ўсіх грамадзян Беларускае Народнае Рэспублікі зь 55-аю гадавінаю вызваленьня Беларусі. Зычу плёну ў вашай чыннасьці й дабрабыту ў вашых хатах. Хай жыве вольная й незалежная Беларуская Народная Рэспубліка! Слава героям-вызвольнікам!

**Прэзыдэнт Алелька Цыбулька**

# З НОВЫМІ ГРАШЫМА Ў 2000 ГОД!




Паводле пастановы ўраду сёлета распачнецца грашовая рэформа з поўнаю заменаю старых купюраў да 1 студзеня 2000 г. Зьвязана гэта найперш з абясцэньваньнем талера, выкліканым высокім роўнем інфляцыі. Як вядома, гэткія адмоўныя тэндэнцыі на валютным рынку адбыліся праз наступствы сусьветнае эканамічнае крызы, што распачалася, як заўжды, у Маскоўшчыне, дзе ў які раз тамтэйшыя алігархі не падзялілі ўласнасьці. Дзеля таго, што дэнамінацыя адбудзецца з аўтаматычным прывязваньнем талеру да амэрыканскага даляру, гэта патрабуе наданьня нашай нацыянальнай валюце больш рэпрэзэнтацыйнага выгляду, таму Народны банк ухваліў праграму ў справе прыцягненьня грамадзян краіны да распрацаваньня вонкавага выгляду новых грошай. На іх мецьме адлюстраваная слаўная мінуўшчына Беларусі, велічныя даты адбудовы нашае дзяржаўнасьці ў 20 стагодзьдзі і асобы, зьвязаныя з гэтымі падзеямі.

Спабор на лепшы праект будзе працягвацца да канца верасьня, а ягоныя вынікі павінныя быць надрукаваныя ў нашай газэце. Пераможца атрымае пажыцьцёвую падпіску на нашую газэту, каштоўныя падарункі й дзяржаўную ўзнагароду з рук Прэзыдэнта Рэспублікі.

Мы зьвяртаемся да ўсіх сваіх чытачоў з заклікам далучыцца да працы ў выпрацаваньні малюнку новых купюр нацыянальнае валюты ды паведаміць пра гэта сваім сваякам і сябрам.

Што да практычнага боку рэформы, дык дэнамінацыя, што распачнецца ад кастрычніка, улучае замену старых грошай на новыя ў стасунку 10000:1 без абмежаваньняў. Ад студзеня 2000 году абарачэньне старых купюр спыняецца на ўсім абшары краіны. Калі Вы маеце якія пытаньні ці клопат у справе абмену грошай, зьвяртайцеся ў аддзел сувязяў з грамадзкасьцю Народнага банку Рэспублікі на адрас: Менск, вуліца Падгорная, 12.

# ПАДМАН КАНЦА СТАГОДЗЬДЗЯ ВЫКРЫТЫ

## Легендарны Іван – насамрэч псыхічна хворы чалавек

Гэта высьветлілася ў часе журналісцкае выправы супрацоўнікаў нашае газэты ў мястэчка Лёзна ў Віцебскім ваяводзтве. Рэч у тым, што да нас патэлефанавала сп-ня Я. і паведаміла, што ў ейным мястэчку зьдзяйсьняюцца вар'яцкія акцыі. Ад 1995 году там штоночы паўстае прывід: постаць волата ў белай вопратцы з доўгімі сьветлымі валасамі, якога досыць часта бачаць апоўначы. Ніхто ня мог яшчэ падысьці да яго бліжэй, як на 50 мэтраў. Маючы гэткі партрэт, нашыя карэспандэнты выправіліся ў дарогу.

У выніку была выкрытая групоўка дзяржаўных злачынцаў, якія скралі зь лякарні люнатыка й скарыстоўвалі яго ў сваіх брудных палітычных гульнях. Пад гіпнозам хворага чалавека змушалі вешаць на гмахі й асьвятляльныя слупы чырвоныя сьцягі. Тою групоўкаю на грошы выведкі нашага ўсходняга суседа былі зьдзейсьненыя гэткія тэрарыстычныя акцыі, як вывешваньне незарэгістраванае чырвонае сымболікі на будынку лёзьненскага дзіцячага садку (хіба ня гвалт зь неразьвітае дзіцячае сьведамасьці?), фарбаваньне ў барвова-зялёны колер зьмешчаных у Бел-чырвона-белую Кнігу Рэспублікі тыграў у віцебскім заалягічным парку, пераназываньне вуліц у гонар бальшавіцкіх "дзеячоў". Адылі, уся гэтая чыннасьць рабілася дзеля "адводу вачэй". Хаваючыся за палітычнымі матывамі, злачынцы падбіраліся да нашае нацыянальнае сьвятыні – трохмэтровага бюста Тадэвуша Касьцюшкі, разьмешчанага насупраць падпольнае 25-павярховае Ўправы піянэрскае арганізацыі БНФ.

Дзякуючы высілкам праваахоўчых органаў БНР, з шчыльнаю дапамогаю нашага журналісцкага атраду, злачынцы былі выкрытыя й занялі сваё пачэснае месца ў выхаваўча-разьмеркавальным летніку ўзмоцненага рэжыму ў Жодзіне. Яшчэ адна тэрарыстычная групоўка зьнішчаная – можна спаць спакойна. Падман жа наконт "геройства" *Івана* стаўся канцом інсынуацыяў несумленных журналістаў і іхных гаспадароў у левых партыях краіны. Цяпер ім давядзецца думаць, дзе адшукаць чарговага псыха, каб зьляпіць зь яго «героя».

**Генадзь Задоры**

# БАЛКАНСКАЯ АВАНТУРА

Цяпер за галоўны спакмень спрэчак ува ўсім сьвеце ўважаюцца падзеі ў Югаславіі. Што гэта за вайна, хто мае рацыю, хто вінаваты, і, нарэшце, каму выгодная гэная разьня на Балканах ды хто за ёю стаіць?

Нам пашчасьціла атрымаць зьвесткі зь першых рук аб праўдзе пра вайну. Неафіцыйныя крыніцы, блізкія да таемных службаў некаторых краін, паведамляюць, што гэтак званая "вайна" ў Югаславіі – усяго толькі прыкрыцьцё даўняе змовы паміж Мілошавічам і... Пэнтагонам. Дэманструючы на паказ гіпэртрафаваную "славянскасьць" і "варожасьць" да Амэрыкі, Мілошавіч шчыльна супрацоўнічае зь янкі.

Да гэткага нечаканага хаўрусу ганебны бялградзкі рэжым прывяло няўхільнае пашырэньне левага руху ў Эўропе. Здань сацыялізму не паўзе, а насоўваецца на дэмакратычныя краіны нашага кантынэнту.

Таемныя лябараторыі ЦРУ распрацавалі найноўшую біялягічную зброю на грунце чарнобыльскіх грыбоў-мутантаў, да якіх зьбіраліся прывіць вірус імпэрыялізму, што разносіўся б паветрам на спорах. Гэткім чынам, Эўропа цалкам заразілася б імпэрыялістычнай ідэалёгіяй. Галоўны ўдар скіроўваўся на... нашую краіну, якую меркавалася абвінаваціць у распаўсюдзе наркаманіі, прастытуцыі й крадзежы ангельскага спадарожніка (!).



Праўда, падзеі разгарнуліся інакш. Дазнаўшыся пра хітрыя пляны імпэрскіх агрэсараў, наш урад пастанавіў выслаць у Югаславію дывэрсійныя атрады. Пасьля некалькіх удалых тэрарыстычных актаў на сакрэтных гутах, у чарнобыльскіх грыбох адбыліся незваротныя мутацыі, і яны вырасьлі да велізарных памераў. Вынікі эспэрымэнту аказаліся супрацьлеглымі – замест таго, каб распаўсюджваць імпэрыялістычную заразу, споры грыбоў сталі разносіць па Югаславіі сэпаратызм, ад якога першымі пацярпелі касавары. Каб не дайсьці да далейшага пашырэньня гэткіх тэндэнцыяў і, разам з тым, схаваць свае злачынствы, NATO зь Мілошавічам пастанавілі разбамбіць таемныя гуты з грыбнымі плянтацыямі, разыграўшы дзеля гэтага сусьветны спэктакль з вайною. Дазнаўшыся, што частка нашых дывэрсантаў схавалася ў амбасадзе хаўрусьніцкае Кітайскае Народнае Рэспублікі, NATO не збаялася пайсьці на міжнародны скандал дзеля помсты купцы сьмельчакоў і пабіла прадстаўніцтва незалежнае дзяржавы бомбамі. Ня меўшы з таго плёну, імпэрыялісты надумалі распачаць правакацыйныя дзеі проці Беларускае Народнае Рэспублікі. Адылі Stalls, што ўзьняўся ў неба, на далясцеў да месца прызначэньня – сталіцы Рэспублікі Менску. Паводле вэрсіі Паўночнаатлянтычнага блёку, ён сутыкнуўся з камэтаю, але тут анічога пэўнага высьветліць не ўдалося.

Ад пачатку вайны на дарогі Югаславіі вываліла вялікая маса ўцекачоў. Спасярод іх і колішнія супрацоўнікі сакрэтных "грыбных" гутаў: яны ішлі асобнаю групоўкаю. Дзеля таго, каб зьнішчыць колькі дзясяткаў людзей, якія маглі б выдаць сакрэтную інфармацыю пра мілошавічавы паскудзтвы, імпэрыялістычныя вылюдкі "памылкова" разбамбілі цэльную калёну ўцекачоў – пра гэта паведамлялася ў тэлевізіі, але праўдзівая прычына не называлася.

Пра агульную зачмуранасьць сьведамасьці бедных югаславаў сьведчыць хаця б тое, што калёны ўцекачоў, што мусілі кіравацца ў БНР і прасіць у нас палітычнага прытулку, рухаліся на поўдзень, бо ім здавалася, што вырай можа быць толькі там, дзе цёпла – у Грэцыі й Македоніі. Югаслаўскія СМІ ўсімі намаганьнямі трымалі ў таямніцы праўдзівае знаходжаньне нашае Рэспублікі. Прыбітыя маною прапаганды панславізму й замшэлай артадаксальнай царквы, людзі не падазравалі, што выратаваньне знаходзіцца на паўночным усходзе ад Бялграду.

Югаслаўская правакацыя скончылася нічым праз мужнасьць супрацоўнікаў беларускіх спэцыяльных службаў, якія пераўтварылі пляны Мілошавіча й NATO ў глябальны "пшык". Але авантуры імпэрыялістаў на гэтым не канчаюцца: рыхтуецца "інтэграцыя"-інкарпарацыя нашага суседа – Рэспублікі Беларусі – у склад Маскоўшчыны з мэтаю стварэньня плянцдарму дзеля захопу Беларускае Народнае Рэспублікі. Але нас ужо не напалохаеш гэткімі "штучкамі": хто з грыбом да нас папрэ, ад грыба й загнецца.

**Рычард Гумэль**

# "МЛЯ... НЕМАЎЛЯ!", —

## чэсныя прызнаньні вядомага палітыка-авантурыста нашаму карэспандэнту ў Рэспубліцы Беларусі

У нашую рэдакцыю прыйшоў ліст ад мінскага карэспандэнта "Радавае Беларусі", уважанага за трупа. Ён, дзякуй Богу, жывы і амаль здаровы. Ніжэй зьмяшчаем ягонае інтэрвію зь вядомым палітыкам і скандалістам-экстрэмістам, лідэрам Лібэральна-дэмакратычнае партыі Рэспублікі Беларусі (ЛДПРБ), Уладзімерам Вальфрамавым Тлушчаноўскім, празь якое журналіст трапіў у 4-ую клінічную лякарню імя Саламеі Русецкай а нават ледзь не памёр.

**Кар.:** Добрай раніцы, Уладзімеру Вальфрамаве!

**У. Т.:** Я Табе дам "добрай раніцы"! *(Аблівае карэспандэнта вадой.)* Маскаль, адназначна! Няма гэткага звароту ў нашай мове! Ты за свае словы ў апошнім вагоне першага цягніку на Палесьсе паедзеш дрыгву асушаць! Адназначна!

**Кар.:** Ці не спрабавалі Вы размаўляць цішэй ды лагодней? Кажуць, дапамагае...

**У. Т.:** Што такое цішэй? Што такое лагодней? *(Аблівае карэспандэнта вадой.)* Я Табе не калыханку пяю, каб народ супакойваць. Адназначна! Мой электарат мусіць быць баявіты! Як я! Сто адсоткаў!

**Кар.:** *(Ціха.)* Крый Божа... Дарэчы, а ці глядзелі Вы ў дзяцінстве "Калыханку"?

**У. Т.:** Я й цяпер яе гляджу. Гэта жах! Трэба забараніць гэткую брыдоту! Адназначна! Я сказаў! Праўдзівая пэдарача. Дзяцей геямі робяць! Вось Ты чуў: "І буслы ў дупло схавалі свае доўгія іксы..." А гэны г...номік, які...

**Кар.:** Уладзімеру Вальфрамаве...

**У. Т.:** *(Аблівае вадой.)* Маўчаць, мля! Шкада, што Ты не кабета, а то як умазаў бы! Твая справа натаваць? Вось і пішы: "Той гномік, які сьпіць на клубох у іншага".

**Кар.:** Добра, супакойцеся, калі ласка. Вось лепш адкажэце, як спадар ставіцца да інтэграцыі Рэспублікі Беларусі з маскалямі?

**У. Т.:** Слушна мужык – то бок прэзык наш – робіць! Адназначна! Мля! Гэткую вялізную правінцыю, як Маскоўшчына, далучае да Беларусі. Сто адсоткаў! Я яшчэ прыйду да ўлады – яны там усе




белмову вывучаць. Я сказаў! Я яшчэ памыю лапці ў Волзе! Мля! *(П'е ваду, карэспандэнт застаецца сухі.)*

**Кар.:** Але ж апазыцыя вашая супраць...

**У. Т.:** Што гэта такое – "апазыцыя"? Мля...немаўля! Усім на Палесьсі месца стане. Ё-маё, яны нават у "выбары" свае пагуляць ня здолелі! Палаяліся! Ды хто яны такія? Дзятва паліцічаская! Прыйдуць да Белае хаты, а я ўжо тамака! Сто адсоткаў! *(Аблівае вадой карэспандэнта, крычыць і плюецца.)*

**Кар.:** Уладзімеру Вальфрамаве, апошняе пытаньне...

**У. Т.:** Мля, я стаміўся. *(Б'е карэспандэнта крэслам па галаве, той звальваецца непрытомны.)*

**Зьміцер Крыс. Мінск**

# БРАТ (пра літоўскі герб)



Не люблю я літоўцаў. Ну, калі настойваеце, дык не літоўцаў, а летувісаў. Ну, хочаце, жамойтаў. У прынцыпе, гэтак сама я стаўлюся і да ліцьвіноў. "Адродзім ВКЛ, адродзім ВКЛ!" Па-першае, чаму лацінкаю? Гэтак можна даадраджацца, дарэчы... Да Рэчы Паспалітае. Па-другое, хочацца запытацца: "Дзе ў гэтых хлопчыкаў пумпачка? Пумпачка *ВЫКЛ.*!"

Не любіў я іх з маленства. А якія 'шчэ пачуцці мог мець маленькі, але шчыры савецкі патрыёт, піянэр і клясны палітінфарматар да гэных нацыяналістаў пасьля першае ж (і апошняе) сустрэчы зь імі?

Уявіце сабе, сядзім неяк гадоў дваццаць таму на лаўцы ў адным невялічкім мястэчку й паядаем марозіва. Чаго мы там сядзелі? Ну, ведаеце, бабуля жыла ў Савецку (Тыльзыце); і з курамі ды каўбасамі ў гэным месьце былі пэўныя праблемы. Дакладней, праблемы былі, а кур і каўбасы – не. Самыя разумееце, які назоў... Мо', калі ён быў Тыльзытам, усё было па-іншаму, але пра тое запытайцеся ў Банапарта з Аляксандрам Першым, якія тут на рацэ браталіся ў 1805-ым. Дык вось, праз гэную самую раку – Літва, куры, каўбасы, марозіва. Ага, вяртаемся да марозіва. Ямо мы яго, а міма ідзе нейкая іхная нацыяналістка ды на іхнай нацыяналістычнай мове пытаецца: дзе, маўляў, гэткую смакату набылі? Бо ў іх, вядома, і куры, і каўбасы, і нават, жуйкі, але таксама не штодзень, і не ў кожнай краме. Натуральна, што пытаньне пра марозіва мы зразумелі не таму, што абазнаныя ў балтыйскіх мовах. Мы, безумоўна, інтэрнацыяналісты, але, выбачайце, на абшарах нашае вялікае радзімы да халеры розных народаў водзіцца, і ў кожнага свая мова, усіх ня вывучыш. І мы ёй пачалі ўсё тлумачыць па-расейску. Як вядома, "рускі язык магуч", а калі яшчэ дапамагаць пальцамі... Але кабета засталася незадаволенаю. Яна не ацаніла нашых намаганьняў у мабілізацыі мімічных здольнасьцяў, зрабіла пакрыўджаную міну і, ні слова болей не сказаўшы, сышла. Ну, не нацыяналістка?! Прамяняць смачнае марозіва на нездаровыя прынцыпы!

Вось гэткімі засталіся ў маіх дзіцячых успамінах усе літоўцы. Для майго ж малодшага брата жыцьцё намалявала нашых суседзяў больш змрочнымі фарбамі.

Справа была гэткая. Паехаў быў ён у Літву адпачываць. Бацькі кажуць, што ён у нас хваравіты, трэ' яму, маўляў, падлячыць ці то ныркі, ці то вочы, ня ведаю дакладна. Наагул радыяцыю вывесьці. Ну, выправілі дзіцёнка. Сустракаем праз тры тыдні. Ажно бачым, хлопец з рукой загіпсаванай. Ён, вядома, нас спачатку заладаваў паводле праграмы: ішоў, спатыкнуўся, ачомаўся – гіпс. Я кажу: "До', а зараз распавядзі, з кім спатыкнуўся". Брацік мой, магчыма, і хваравіты, але ганарлівы, з прэтэнзіяй на самастойнасьць, як ніяк – 13 гадоў.

Але ўрэшце я яго раскруціў на споведзь. У першыя ж дні свайго гасьцяваньня ў нашых балцкіх братоў мой братэла не сышоўся характарам зь некалькімі тамтэйшымі дзецюкамі. Што тут было за прычыну: ці недаразьвітасьць ягонае балцкае кампанэнты, ці пераразьвітасьць славянскае – ня ведаю. Але факт ёсьць фактам: неяк заманулася брацiку пашпацыраваць па лесе, што вакол санаторыюму...

І вось ён гуляе між сасонак і ялінак па мяккім гольлі, а радыяцыя зь яго так і струменіць, а почкі (даруйце, ныркі) набухаюць – вясна ўсё ж такі, а вочкі... Вось вочы ягоныя бачаць некалькі айсаргаў. І гэныя лясныя браты бяруць у кола майго брата, а той ужо пачынае згадваць найлепшымі словамі і мамусю, якая прыдумала ідэю з адпачынкам, і татуся, які "падмітусіў" пуцёўку. Між тым, наймажнейшы жамойт пытаецца:

– А скажы нам, дарагі, адкуль ты гэткі ўзяўся?

– Зь Беларусі.

– Ага, – працягвае "аўтарытэт". – А якая ёсьць твая нацыянальнасьць?

– Беларус я.

– Ну, раз ты гэткі сазнацельны, дык, мо' скажаш нам, які ёсьць беларускі сьцяг?

Братэла скеміў, што хлопцы яго выпрабоўваюць, каб адшукаць падставу для бойкі. Ён ня дужа сьведамы, але таго-сяго ад мяне нахапаўся й адказаў ідэалягічна слушна:

– Бел-чырвона белы!

– О!!! – зьдзіўлена, але ўхвальна, выгукнулі айсаргі.

"Yes! Трапіў!" – падумаў брацік задаволена.

Але бамбіза, які задаваў папярэднія пытаньні, узьняў руку, і ўсе сьціхлі. І тады ён ізноў зьвярнуўся да майго братана.

– Ну, харашо, дарагі таварышу. А зараз сказаць, які ёсьць герб беларусаў?

"Ха! Найпрасьцейшае, Варашылаў мне знайшоўся", – падумаў брат – а ўголас хутка й радасна адказаў: "Пагоня!"

Далей брацік нічога ня памятае. Ну, амаль нічога. Згадваецца яму, як пасьля ягоных словаў спачатку ўсё навокал сьцямнела, бо нехта выцяў яго ззаду па патыліцы. А пасьля змрок зьмяніўся на мірыяды зорак. І гэтак паўтаралася некалькі разоў, пакуль нехта "лячыў" яму ныркі, а хтосьці – вочы й руку.

А калі ўдары сьціхлі, нехта з жамойтаў схіліўся над брацікам і прамовіў: "Запомні: "Пагоня" – гэта наш герб!"

**Дзед Карней**




## Народная тэлевізія Беларусі

**26. 07. Панядзелак**
21.45
*"Опэр упаў намочаны"*
Мастацкі фільм.
Рэжысэр Аўген Скочка.

**27. 07. Аўторак**
20.45
*"Калы Ханка"*
Перадача для немаўлятак.

**28. 07. Серада**
17.00
*"МакДональдз у Беларусі прэзэнтуе"*
Перадача пра беларускія стравы. Выпуск 124. Кава й какава.
Вядучы др. філялёгіі Спадар Вінцук

**29. 07. Чацьвер**
19.00
*"Уланві інтанацыю"*
Забаўляльнае шоў.
Вядучы ды-джэй Ад нараджэньня (Вальдзіс Пяльменьш)

Шчолк. На экране – Вальдзіс Пяльменьш. Не, ня Пэльш, і нават ня Урвас Мот. Гэта ды-джэй Ад нараджэньня. Шоў "Улаві інтанацыю", з сурдаперакладам. У кожным разе рукамі ён махаць мастак. І вось, ён нахіліўся над адным з найбліжэйшых гледачоў:

–Ну што, піянэру Пецю, як будзе па-наску "скважина"?

–Ня знаю...

–Ну, а колькі беларускіх літараў, я запытваюся ў Цябе, у слове "каўпень"?

Цьвёрда трымаўся юнак на дапросе...

–А я табе адкажу – адна! Адна беларуская літара ў гэтым слове – "ў" нескладовае"!

**30. 07. Пятніца**
19.15
*"Заўтра з Вамі..."*
Зянон Бруклінскі бажыцца, што ў гэты дзень вернецца на Бацькаўшчыну й дасьць нам інтэрвію. Ён будзе ўсьцешаны пабалакаць з сваімі фэнамі ў простым эфіры. Звоніце на тэлефон рэдакцыйнае студыі: 284-50-12.

**31. 07. Субота**
15.15
*"Цудадзей-94. Краіна Вялікага Бацькі"*
Сэрыял для дзяцей.
23.55
*"Эратычныя шоў сьвету"*
Паказ спабору "Міс-тэр Малады Фронт" з удзелам найлепшых парназорак беларускага бамонду.

**1. 08. Нядзеля**
17.10
*"Чортава кола гісторыі"*
Гульня.
Пра нехарошых іх, якія крыўдзілі харошых нас: пра змаганьне з ворагамі.

**Анонс тыдня. Найцікавейшыя перадачы ад 26 ліпеня да 1 жніўня**

## ЖЛОБІНСКІ ДЫСНЭЙЛЕНД

Праблема малога заробку заўсёды існавала, нават у найзаможнейшых краінах сьвету. І людзі заўжды імкнуліся адшукаць для сябе, без спадзяваньня на ласку дзяржавы, выйсьце з гэткага стану. Хто мінаў чыгункаю мястэчка Жлобін, бачыў людзей, якія зарабляюць на жыцьцё продажам мяккіх цацак ля цягнікоў. Наш карэспандэнт распачаў гаворку з адным прадаўцом. Ейным вынікам сталася тое, што, як высьвятляецца, у Беларусі на фабрыках дзіцячых цацак выходзіць хібная прадукцыя, прынамсі ў Жлобіне.

– Купіце цацку, паночку!

– А што гэта ў Вас?

– Гэта? Вожык.

– Вожык? Хіба вожык мае сінія лапкі, жоўтую пысу й чырвоны нос? Мо' ён у Вас хворы?

– Ня хворы!

– Ясна. Гэта чарнобыльскі вожык.

– Хай будзе чарнобыльскі, але ж набудзьце.

– Ага! А гэта што?

– Слонік.

– Слонік таксама чарнобыльскі?

– Праз што Вы гэтак мяркуеце, ён жа мае нармальны колер?

– А навошта ў яго хобат паміж ног?

На апошняе пытаньне гандляр не адказаў і засаромеўся. Дзеля таго, каб нам не было сорамна за сваю краіну, дзе пачалі вырабляць зь дзіцячых цацак, паведамляйце пра гэткага кшталту здарэньні нам у рэдакцыю. Кожная сапсаваная рэч – гэта ня толькі шкода для аўтарытэта краіны, але й падман кожнага чалавека, як чальца грамадзянскае супольнасьці, што толькі цяпер пачала неяк фармавацца ў Беларусі.

**Наш кар.**

## ПАЗЬНЯК ЗЬДЗІВІЎСЯ Б

Армянская служба радыё "Свабода" ў часе прэзыдэнцкае перадвыбарчае кампаніі ў Рэспубліцы Беларусі запыталася ў кандыдата на "бацьку":

– Зяноне Станіслававе, што Вы найперш зробіце, калі станеце прэзыдэнтам?

– Вельмі зьдзіўлюся!

## ПАТЭНЦЫЯЛ БАРТОСІКА

Нядаўна зорка беларускае бардаўскае песьні Зьміцер Бартосік выступаў перад "удасканаленымі" настаўнікамі. Пасьля "Сэксрэвалюцыйнае" да яго падышла вельмі кансэрватыўная кабета й заявіла:

– Не чакала гэткага ад Вас, пэўная, малады чалавеча, што Вы маеце большы патэнцыял!

А мы дадамо: адкуль яна ведае ягоны патэнцыял, і што наагул мела на ўвеце?

**Паводле Беларускага радыё**

# ПАВЕДАМЛЕНЬНЕ НАРОДНАГА САКРАТАРЫЯТУ БЕЛАРУСІ
## АБ ПАРАДКУ АТРЫМАНЬНЯ ГРАМАДЗЯНСТВА




Паводле дамовы паміж урадамі БНР і РБ, міністэрства ў справах нацыянальных ды сэксуальных меншасьцяў разам зь міністэрствам нацыянальнае інтэрвэнцыі й абароны правяло спраўджваньне маладых грамадзянаў Рэспублікі Беларусі, якія жадаюць атрымаць падданства БНР, на розныя небясьпечныя пошасьці. На жаль, у моладзевым асяродку суседняе краіны выяўленая вялікая група рызыкі, вылучаная пад скаротам БПСМ. Ейныя прадстаўнікі хворыя на лукашызм – пошасьць ня менш небясьпечную за СНІД, што апошнім часам хутка распаўсюджваецца . Таму просты ўваход "рызыкантаў" у супольнасьць грамадзянаў БНР праблематычны.

Міністэрства ў справах сэксуальных ды нацыянальных меншасьцяў разам зь міністэрствам нацыянальнае інтэрвэнцыі й абароны распрацавала сумесную праграму з мэтаю вылучэньня з групы рызыкі БПСМ тых асобаў, якія маглі б атрымаць пашпарты Беларускае Народнае Рэспублікі. Праграма ўлучае чатыры этапы:

1. З мужчынскае часткі групы рызыкі фармуюцца вайсковыя атрады для высланьня на фронт змаганьня зь літоўскімі фашыстамі. Адказны: сп. Лі Харві Скочка;

2. Для "працы" з жаночым кантынгентам ствараюцца адмысловыя ідэалягічныя брыгады з спраўджаных і надзейных хлапцоў-вэтэранаў "Шоў беларушчыны". Адказны: сп. Андрэй Пятроў;

3. Тыя прадстаўнікі мужчынскае групы, што крывёю, пралітаю за тэрытарыяльную цэласьць Беларускае Народнае Рэспублікі, "выкупілі" сваю хваробу, а гэтаксама прадстаўніцы жаночае паловы з рэкамэндацыямі сп. А. Пятрова, маюць права на атрыманьне грамадзянства БНР;

4. Для невыпраўляльных маладых грамадзянаў РБ у амбасадзе БНР створаны пункт выданьня бясплатных гумак "Каб не размнажаліся".

Асобы, якія маюць дазвол на атрыманьне пашпарту БНР, павінныя валодаць наступнымі дакумэнтамі: заява ў беларускай, жыдоўскай і ангельскай мовах; 4 фатакарткі 3 на 4; заплаціць у амбасадзе БНР 1. 000. 000 талераў; 100 даляраў на выпадак улагоджаньня канфлікту з супрацоўнікам пашпартна-візавае службы.

## 16 ТРАЎНЯ: ДЗЁРЗКІ ПЛЯН



Нашая рэдакцыя пастанавіла не рабіць аніякіх камэнтароў пра "прэзыдэнцкія выбары" ў Рэспубліцы Беларусі, адно толькі дае слова нашаму песьняру – Дзеду Карнею, які быў непасрэдна на месцы падзеяў у тыя травеньскія дні й напісаў адмыслова для нашае газэты верш-справаздачу з свае паездкі.

16-га траўня мы зьдзейсьнілі дзёрзкі плян,
16 хлопцаў-малайцоў: і ты, і ён, і я.
16 траўня мы выйшлі пагуляць,
Каб галасы ў мінакоў у скрынку пазьбіраць.

Мінула 16 гадзінаў, мы абышлі раён,
Участковая камісія: і ты, і я, і ён.
У Лошыцкім ля млыну мы селі адпачыць,
І сталі скрынку адчыняць, каб галасы лічыць.

16 бюлетэняў, а болей ні ікса,
І з гора мы напіліся: і ты, і ён, і я.
З нас хто быў за Зянона, а хто за Чыгіра –
Да бойкі пасварыліся: і ты, і ён, і я.

У парку сярод дрэваў абклалі нас мянты,
"Хавайся ў бульбу!" – крыкнулі: і я, і ён, і ты...
15 дзён мінула, 15 доўгіх дзён,
Участак ўсё ж пакінулі: і ты, і я, і ён.

Бяляцкі нас сустрэне ласкава на "Вясьне"
І штрафы кампэнсуе нам: табе, яму і мне.



**КУПОН** **БЯСПЛАТНАЙ ПРЫВАТНАЙ АБВЕСТКІ**

Запоўніце гэты купон, і мы надрукуем Вашую абвестку бясплатна. Дашлеце гэты купон на адрас: а/с 169, 220030 Менск, "Радавая Беларусь"

Тэкст ____________________

Імя і прозьвішча ____________________

Адрас, тэлефон ____________________